# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (291) | ГОД VII | 9 ВЕРАСНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


## Максіму Танку 50 год

З нагоды 50 гадавіны з дня нараджэння шлём дарагому Юбіляру самыя сардэчныя прывітанні, словы любві і захаплення Яго цудоўным талентам.

На стар. 2 чытайце артыкул аб Максіме Танку спецыяльна напісаны для «Нівы» савецкім літаратурным крытыкам Г. Бярозкіным.



Максім Танк выступае на ўрачыстасці, прысвечанай гадавіне вызвалення Польшчы

ВЕРА ЛЕЎЧУК

## Па Сакольскай дарозе...

Зусім неспадзявана рассунуліся хмуры і яскравае сонца заліло зямлю. Доктар Фількевіч спешна пасаджаў нас ва ўласную машыну. Сам сеў за руль. Дарога была брукаваная і колы машыны выспеўвалі на ёй сваю шурплівую песню.

Сакольскі краявід! Які ён іншы ад роўнага плоскага Гайнаўскага. Машына падымалася і апускалася, гойдалася на дарозе. А праз адчыненае акенца ўрывалася бліскучае сонца, змешанае з ветрам. Было прыемна.

Кароткая размова перад выездам у Сакольцы з др Фількевічам, намеснікам кіраўніка аддзела здароўя, і др Дохай (аб ім асобна), дазволіла сарыентавацца, што ў галіне аховы здароўя ў Сакольскім павеце вее новы вецер. Таму, калі др Фількевіч запрапанаваў нам падскочыць у адзін новаадкрыты вясковы пункт аховы здароўя, згадзіліся мы на гэта хутка.

Машына з шумам убірае пад сябе дарогу. Сонца свеціць. Найперш затрымліваемся у вёсцы Васілёўка. Незнаёмая нам Леакадыя Бялецкая з гэтай вёскі нарадзіла нядаўна ў новаарганізаваным радзільным доме пры пункце аховы здароўя ў Янове б л і з н я т. Першы выпадак у акоіліцы, першы ў новым радзільным доме. Такую асаблівасць улічыў Паватовы аддзел здароўя і падарыў шчаслі-

(Працяг на стар. 5)

МАКСІМ ТАНК

* * *

«Кесарава — кесару...»
Табе ж я ўсё аддаў:
І тое, што належала
Да зор, зямлі і траў;

І нат калі ў далёкі шлях
Мяне пазвала ты,
Пайшоў я, за сабой усе
Разбурыўшы масты.

Я шмат багінь спакуслівых
І ласкавых страчаў,
Але табе, паэзія,
Ніколі не здраджаў.



— Прадайце лёс, а ну ж усміхнецца шчасце. Кніжная латарэя прыцягвае да сябе натоўп моладзі і старэйшых.




На сцэне дзяўчаты з Койлаў.

(Рэпартаж «У грабавым ляску» чытайце на стар. 3)

ПА ТОЙ БОК ЖЫЦЦЯ.

## ТЫДЗЕНЬ

Рэдакцыя здабыла дзённік аднаго з беластоцкіх хуліганаў. На аснове гэтага дзённіка мы апрацавалі цыкл артыкулаў п. з. «Па той бок жыцця», які і прапануем нашым чытачам.

Панядзелак, 16.X.II.1957 г.

— Прапускаеш дні! — настаўнік ссупіў бровы. — Заўтра прыдзі з маткаю.

Сашка, вучань III-га класа, апусціў галаву. «Будзе біць, на вачах усіх! Шырокай дзягаю з жоўтай запінкаю...»

— Гэты тыдзень мама працуе на першай змене, — каўкнуў сліну.

— Не ведаеш раскладу урокаў, хлопчык мой. У аўторак пачынаюцца яны а 12-ай гадзіне.

Маці вярнулася з працы, калі гадзіннік адбіваў другую. У місцы намачыла кавалак мяса. Пэўна стаяла ў чарзе. Саша мацней пахіліўся над сшыткамі.

— Вучыся сынок, вучыся, — сказала, як штодзень, і праз момант глядзела на партрэт пакойнага бацькі...

Аўторак. —

— Прыдзе?

Саша не адзываўся.

— Без маткі не хачу цябе бачыць у школе!

Пайшоў — да спартыўнага клуба «Ягелонія» пры вуліцы Юравецкай. Шумна тут, як заўсёды.

— Голубе! Згуляем партыю пінг-понга? Га?!

Сашка павесялеў. Гралі. Раз, другі раз, трэці. Вось і ранні зімовы змрок.

— Окэй... Цудоўна падаеш, — новы знаёмы клапнуў па плячы. — Называюся Генік.

— Сашка.

— Хочаш есці?

— Хочацца.

— Пакінуў «буду»? Маеш рацыю. І мне надакучылі «акулярнікі»...

Заначавалі ў прывакзальнай пачакальні «Беласток — Цэнтральны».

(Працяг на стар. 4)

# НЕБЯСПЕЧНАЯ ГУЛЬНЯ З АТАМАМ

У мінулым тыдні прэзідэнт ЗША Дж. Кенедзі зрабіў заяўленне, якое ўводзіць у зман людзей, неарыентуючыхся ў сутнасці амерыканскай атамнай палітыкі. У часе прэс - канферэнцыі адзначыў ён, што «з'яўляецца шчаслівым, маючы магчымасць паведаміць, што, паводле меркаванняў ўрада ЗША, прапанова СССР, каб спыніць, пачынаючы ад 1 студзеня 1963 года, усялякія ядзерныя выпрабаванні, з'яўляецца разумнай і што Злучаныя Штаты супольна з усімі зацікаўленымі гэтым пытаннем краінамі паложаць усе намаганні, каб заключыць карысны дагавор.»

Маючы на ўвазе, што гэтая заява была зроблена пасля апублікавання ў Жэневе апошніх савецкіх прапаноў, можна меркаваць аб Злучаных Штатах як аб краіне, якая ўрэшце ідзе насустрач мудрым намаганням, накіраваным на ліквідацыю ў арсенале ўзбраенняў найбольш грозных сродкаў знішчэння — ядзерных бомб. Тым часам справа выглядае па-другому. У той самы час, калі Кенедзі выступаў у Вашынгтоне са сваёй шматабяцаючай дэкларацыяй, прадстаўнікі ўрада ЗША, удзельнічаючыя у Жэнеўскай канферэнцыі па раззбраенню, рашуча адкінулі савецкую прапанову, якая прадбачвала спыненне, пачынаючы ўжо ад 1 студзеня 1963 года, усялякіх ядзерных выпрабаванняў. Уся сутнасць заходняй атамнай палітыкі зводзіцца зараз да таго, каб пад прыкрыццем быццам бы немагчымасці дасягнення паразумення далей праводзіць ядзерныя выпрабаванні і не толькі пад зямлёю, але таксама пад вадою і ў касмічнай прасторы.

Гэтага вымагае быццам бы неабходнасць дагнання і апераджэння Савецкага Саюза.

Многія аднак краіны паддаюць пад сумненне такую аргументацыю, у тым ліку і нейтральныя, якіх прадстаўнікі знаходзяцца ў Жэневе. Гэтыя дзяржавы наогул адназначна ацэньваюць сэнс савецкіх прапаноў, якія незалежна ад стану атамнага ўзбраення СССР накіраваны на поўную ліквідацыю гонкі ўзбраенняў і магчымага канфлікту атамнай зброі. Нейтральныя дзяржавы не згаджаюцца таксама з аргументацыяй ЗША, якія хочуць увесці кантрольныя інспекцыі як умову для заключэння пагаднення аб забароне ядзерных выпрабаванняў.

Яны ведаюць, менавіта, аб тым, што ў сённяшніх абставінах **усе ядзерныя выпрабаванні** можна кантраляваць пры дапамозе тэхнічнага абсталявання, размешчанага ў некалькіх дзесятках месц зямнога шару. Тым часам ход Жэнеўскай канферэнцыі даў шмат доказаў, што ЗША і Вялікабрытанія ўжываюць усялякіх хітрасцей, каб стварыць для сябе спрыяльныя ўмовы для пашырэння атамнага патэнцыяналу, або — з другога боку — палепшыць сабе ўмовы для шпіёнскай работы.

Нельга аднак сказаць, што на працягу апошніх тыдняў пазіцыя ЗША не змянілася. Пад націскам вучоных і прадстаўнікоў нейтральных краін Злучаныя Штаты згадзіліся на магчымасць выкрывання тэхнічнымі спосабамі ядзерных выбухаў у паветры і космасе. Яны нават хочуць падпісаць пагадненне аб забароне такіх выпрабаванняў аднак з выключэннем... выбухаў пад зямлёю. У выніку такое пагадненне не прынесла б ніякай змены ў параўнанні з цяперашняй сітуацыяй. Для чалавецтва з'яўляецца абыякавым, ці вялікая атамная вайна падрыхтоўвалася б у глыбіні пустыні Невада, ці на яе паверхнасці. Альтэрнатыва зводзіцца не да таго, як падрыхтаваць для чалавецтва агульную магілу, але ці наогул усё гэта патрэбна. У такіх умовах словы прэзідэнта ЗША поўны фальшу і двудушнасці. Іх лёгка расшыфравалі і нейтральныя краіны. Неўзабаве пасля заяўлення Кенедзі дэлегаты Нігерыі, Індзіі і Бразіліі выступілі ў Жэневе з уласнымі праектамі, якія ў агульных абрысах зводзяцца да падтрымкі савецкай пазіцыі.

І так, хаця Жэнеўская канферэнцыя не прынесла на працягу паўгода ніякіх станоўчых вырашэнняў, але аднак з кожным днём штораз больш агаляе яна і ізалюе заходнюю атамную палітыку.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Да 50-годдзя з дня нараджэння

# МАКСІМ ТАНК

17 верасня 1962 года спаўняецца 50 год аднаму з таленавітых паэтаў Савецкай Беларусі — Максіму Танку.

На шлях паэтычнай творчасці Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко) уступіў на пачатку 30-х гадоў. Камсамолец, актыўны ўдзельнік нацыянальна - вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі, Танк паставіў сваю паэзію на службу рэвалюцыйнай барацьбы за вызваленне народа, за ўз'яднанне ўсіх беларускіх зямель у адзінай сацыялістычнай дзяржаве.

Вядома, што афіцыйныя палітыкі буржуазнай Польшчы праводзілі на заходнебеларускіх і заходнеукраінскіх землях антынародны, шавіністычны курс на насільнае апалячванне, на знішчэнне нацыянальных багаццяў беларускага і украінскага народаў. Сутнасць гэтага курса з незамаскаваным цынізмам раскрыў адзін з буржуазных польскіх публіцыстаў: «Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і мовы таму, што беларусы не маюць сваіх уласных традыцый».

Іменна ў тым і была заслуга Танка, што ў сваёй гераічнай па сутнасці, манументальнай і вельмі чалавечнай лірыцы, у сваіх сюжэтных паэмах паэт стварыў вобраз пакутуючага і змагаючагася народа, перадаў яго неадольнае імкненне да шчасця і свабоды, пацвердзіў яго гістарычнае быццё.

Першая кніга Максіма Танка, выданая ў 1936 годзе на сродкі Камуністычнай партыі, мела вельмі вымоўны загаловак — «На этапах». Вокладка кнігі прадстаўляла дарогу, штык і цень штыка, падаючы на дарогу. Скупы гэты малюнак даволі поўна перадаваў сэнс творчасці паэта - рэвалюцыянера, які не раз зведаў этапы, турмы, жорсткі цэнзурны гнёт. Ды і ці ж магло быць інакш, калі баявой, натхнёнай песні паэта каланізатары баяліся не менш, чым вінтоўкі ў руках паўстанца.

У творчасці Максіма Танка з часоў буржуазнай Польшчы вельмі часта сустракаецца вобраз людскіх рук, параненых аб штыкі, аб калючы дрот, але ўпарта працягнутых на Усход, да сонца. Гэта, уласна кажучы, галоўны вобраз паэта і асноўны лейтматыў яго ранняй творчасці.

І ці варта здзіўляцца, што ўступленне Савецкай Арміі на заходнебеларускую зямлю 17 верасня 1939 года Максім Танк сустрэў сардэчным, усхваляваным прывітаннем:

Здарова, таварышы!
Доўга чакалі
Мы вас і чакала ўся
наша зямля...

У песні, якой паэт сустрэў савецкіх байцоў, гучалі радасць, шчасце споўніўшыхся надзей, захапленне свабодай і прадчуванне небывалых даляў, якія ўпершыню адкрыліся перад сэрцамі...

І раптам — вайна... На паўслове абарвалася, не набраўшы вышыні, новая песня Максіма Танка. Паэт уступіў у рады Савецкай Арміі. Дастаткова прывесці толькі загалоўкі некалькіх яго вершаў, напісаных у першыя месяцы вайны, каб уявіць сабе іх змест: «Падымайся, Беларусь!», «Не шкадуйце, хлопцы, пораху!», «Рыхтуйце зброю», «Да зброі, Беларусь!» Гэтыя і многія іншыя вершы, надрукаваныя ў выглядзе лістовак, распаўсюджваліся па акупаванай фашыстамі беларускай зямлі.

Светам усенароднага подзвіга, зробленага на палях вайны, асветлена ўсё напісанае Танкам у першыя пасляваенныя гады. Вопыт вайны ўзбагаціў паэта, абвастрыў яго пачуццё адказнасці за лёс света, прымусіў з новай сілай адчуць свае сувязі з усім працоўным чалавецтвам.

Пасляваенную паэзію Танка адчыняе магутны рэквіем па тых, хто не дажыў да светлага дня Перамогі. Чалавечая туга і боль, паднятыя да вяршынь трагічнага пафаса, гучаць у такіх вершах, як «Трасцянец» і «Гета», гэтых здзіўляюча дакладных і чуткіх, як сігнал сейсмографа, здымках зямлі, абвугленай агнём «на глыбіню магіл» і «ў вышыню да самых дальніх зор».

Перамога савецкага народа над фашызмам з'явілася перамогай бессмяротных прынцыпаў гуманізма над сіламі цемры і зла. У паэзіі Танка гэтыя прынцыпы жывуць не самі па сабе, не «тэарэтычна», а як жывая неспакойная заўзятасць, патрабуючая не слоў, а рэальнага актыўнага дзеяння, якое зрабіла б немагчымым новую «вылазку» зла, новы яго напад на будучыню света і чалавецтва.

Узбуджаць у людзях пачуццё актыўнай, дзейснай чалавечнасці — вось у чым бачыць паэт свой свяшчэнны абавязак, і гэтаму абавязку ён ніколі не здрадзіць.

Вось чаму і сёння, захоплены пафасам мірнай стваральнай працы, голасна, з запалам услаўляючы сваіх землякоў - металургаў, машынабудаўнікоў, рыбакоў — паэт не прапускае зручнага моманту, каб напомніць людзям аб ахвярах Асвенціма і Хірасімы, намаляваць карціну выкінутых на бераг Балтыйскага мора старых нямецкіх мін, якім усё яшчэ сняцца «лінкоры і смерць»...

Мастак ярка праяўленага рамантычнага складу, які, у прыватнасці, многаму навучыўся ў такіх паэтаў перадавога польскага рамантызма, як Міцкевіч і Славацкі, Танк умее, гаворачы аб падзеях велізарнай гістарычнай важнасці, захаваць непасрэднасць і чысціню першага ўражання, свежасць і навіну ўпершыню ўбачанага і пазнанага.

Побач з трагічнымі, поўнымі гора і болю вершамі, як «Трасцянец» ці «Хірасіма», мы сустракаем у Танка вершы, перапоўненыя нестрыманай цягай да цудоўнага і заўсёды маладога света закатаў, сосен, азёр. З-пад пяра паэта, стварыўшага страшную карціну зямлі, абвугленай «на глыбіню магіл», выйшаў і здзіўляюча чысты, па-веснавому празрысты вобраз, калі сустрэтая на дарозе дзяўчына «нясе два поўныя вядры з вадой крынічнай веснавой зары». Сэрца паэта, зведаўшае шмат гора, яшчэ можа хваляваць постаць вясковага хлапчука з кропелькай мёда, што «святлей каміфолі», на запэцканым тварыку...

Маштабнасць і шырыня, уменне ахапіць адзіным поглядам блізкае і далёкае, гістарычна значнае і штодзённа заўсёды адрознівалі Максіма Танка. Асабліва праявілася гэта ў апошніх кнігах паэта «След бліскавіцы» і «Хлеб мой надзённы». Гэта вельмі розныя, і разам з тым адзіныя ў сваім гучанні паэтычныя кнігі. Вершы напісаны ў стылі свабоднага лірычнага апавядання, яны вяртаюць нас да першапачатковага ўспрыймання свету паэтам, да тых незабыўных уражанняў дзяцінства, з

(Працяг на стар. 7)

# ФУТБОЛ

### Становішча на 2 верасня

#### III ЛІГА

Mazur — Warmia 7:0, Skra — Husar 3:0, Tur — Wigry 3:1, Sokoł — ŻKS 0:1, Włókniarz — Pogoń 5:1, ŁKS — Gwardia 1:1.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Mazur Ełk | 10:0 | 29: 3 |
| 2. | Gwardia B-stok | 7:3 | 21: 8 |
| 3. | Tur Bielsk Podl. | 7:3 | 14:11 |
| 4. | ŻKS Zambrów | 6:4 | 12: 9 |
| 5. | Skra Czarna B. | 5:3 | 8: 9 |
| 6. | Włókniarz B-stok | 5:5 | 11:10 |
| 7. | Wigry Suwałki | 4:6 | 10:14 |
| 8. | Husar Nurzec | 4:6 | 8:15 |
| 9. | Sokoł Sokółka | 4:6 | 8:16 |
| 10. | ŁKS Łomża | 3:7 | 7:11 |
| 11. | Warmia Grajewo | 2:8 | 9:21 |
| 12. | Pogoń Łapy | 1:7 | 4:14 |

#### КЛАС «А»

Orzeł Kolno — ŁKS Łomża 5:1, Kresovia Gołdap — Promień Mońki 4:0, Wissa Szczuczyn — LZS Suchowola 3:1, Wigry Suwałki — Mazur Ełk 0:0, Puszcza Hajnówka — Żubr Białowieża 4:0, LZS Uhowo — Ognisko Białystok 1:2, Gwardia Białystok — Tur Turośń Kościelna 5:1, Husar Nurzec — Jagiellonia Białystok 1:4.

#### ЛІГА ЮНІЁРАЎ

Ognisko Białystok — Puszcza Hajnówka 1:5, Gwardia Białystok — Jagiellonia Białystok 1:3, ŁKS Łomża — Sokół Sokółka 2:5, Warmia Grajewo — Skra Czarna Białostocka 2:1, Mazur Ełk — Wissa Szczuczyn 1:0.

#### ЧЭМПІЯНАТ СССР

**I падгрупа**

Дынама К. — Лакаматыў 3:0, Шахцёр — СКА 2:2, Зеніт — Спартак Ер. 2:1, Кайрат — Даўгава 0:0, Лакаматыў — Жальгірыс 0:0, Даўгава — Шахцёр 2:0, Спартак Ер — СКА 2:1, Дынама К — Кайрат 1:0.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Дынама К | 28:6 | 39:17 |
| 2. | ЦСКА | 27:9 | 28:8 |
| 3. | Шахцёр | 19:11 | 25:19 |
| 4. | Зеніт | 18:16 | 29:20 |
| 5. | Малдова | 17:15 | 23:20 |
| 6. | СКА | 17:19 | 29:25 |
| 7. | Кайрат | 14:18 | 14:17 |
| 8. | Лакаматыў | 11:23 | 15:27 |
| 9. | Даўгава | 11:23 | 14:26 |
| 10. | Спартак Ер | 11:23 | 13:29 |
| 11. | Жальгірыс | 9:21 | 10:31 |

**II падгрупа**

Дынама Тб — Беларусь 3:2, Авангард — Спартак М 0:0, Дынама Л — Тарпеда М 2:4, Кр. Саветаў — Тарпеда К 3:0, Нафтавік — Пахтакор 0:0, Тарпеда М — Авангард 1:0, Дынама Тб — Дынама М 1:1, Пахтакор — Кр. Саветаў 2:1, Беларусь — Дынама Л 2:2.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Тарпеда М | 22:10 | 37:16 |
| 2. | Дынама Тб | 22:12 | 26:15 |
| 3. | Дынама М | 21:11 | 23:13 |
| 4. | Спартак М | 19:11 | 32:17 |
| 5. | Пахтакор | 19:15 | 19:19 |
| 6. | Нафтавік | 17:17 | 23:20 |
| 7. | Беларусь | 14:20 | 16:20 |
| 8. | Авангард | 13:21 | 23:13 |
| 9. | Дынама Л | 13:21 | 13:34 |
| 10. | Тарпеда К | 11:21 | 17:32 |
| 11. | Кр. Саветаў | 11:23 | 19:28 |

Юрый Дольд-Міхайлік



# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ

## На Атлантычным вале

ПЕРАКЛАЎ Хведар Асіпчук



Раніцай Генрых вырушыў у Сен-Назера, невялічкае мястэчка ў заходняй Францыі, паблізу якога была размешчана дывізія генерал - маёра Толе.

У назначаны час Генрых далажыў генералу пра мэту сваёй камандзіроўкі.

— Вы атрымаеце ўсе патрэбныя дадзеныя заўтра а дзесятай раніцы, — сказаў генерал. — А пакуль пагуляйце ў нас... Калі ласка! — крыкнуў генерал у адказ на стукат у дзверы.

184

Нехта ўвайшоў. Генрых сядзеў спіною да дзвярэй і не бачыў, хто гэта.

— Знаёмцеся, мой ад'ютант, маёр Шульц, а гэта наш госць — барон фон Гольдрынг, — сказаў генерал. Здзіўленне і жах убачыў Генрых на твары маёра, калі павярнуўся да яго і прывітаўся.

— Маёра Шульца, гер генерал, я ведаю ўжо даўно. Мы з ім сябры. Ці не так, гер Шульц?

— Цалкам справядліва!

— Тады павячэраем сёння разам. А цяпер я іду. Вы, гер Шульц, цэлы дзень свабодны. Спадзяюся, вы паклапоціцеся, каб наш госць не занудзіўся да вечара.

Генрых і Шульц вышлі з кабінета генерала.

— Зойдзем да мяне! — запрапанаваў Шульц, паказваючы на дзверы насупраць кабінета генерала.

Сеўшы адзін супраць аднаго, Шульц і Гольдрынг доўга маўчалі.

— Здаецца, гер Шульц, вы не вельмі рады нашай сустрэчы? — першым спыніў маўчанне Генрых. — А той здзіўлены позірк, якім вы мяне сустрэлі ў кабінеце вашага начальніка, сведчыць пра тое, што вы спадзяваліся сустрэць мяне хіба што на тым свеце?

— Вы, як і раней, гаворыце шматзначна і загадкамі, барон!

— Памыляецеся, бо я зусім не збіраюся гуляць з вамі ў жмуркі, Шульц! Вы нарушылі слова афіцэра, наш дагавор на ўсходнім фронце! Я прыехаў сказаць вам, што таксама парушу сваю абяцанку і гэту фатаграфію генерала Даніеля — вы пазнаеце яе? — неадкладна ж перадам куды трэба.

185

— Я не нарушыў дагавору! — глуха сказаў Шульц.

— А данос з Мантэфлер да гестапа ў Сан-Рэмі хто пісаў? А данос у штаб корпуса?

— Чаго вы ад мяне хочаце? — прахрыпеў Шульц.

— Ад вас асабіста нічога! Хай вашым далейшым лёсам клапоціцца гестапа.

Генрых падняўся і накіраваўся да дзвярэй.

— Гольдрынг!

Шульц.

— Вы нешта маеце сказаць мне, маёр?

— Гольдрынг! Малю вас! Ну, усё, што хочаце...

— А мне нічога ад вас не трэба! Усе звесткі рыхтуе для мяне начальнік штаба. Заўтра я папрашу ў камандзіра дывізіі пропуск, аб'еду дзялянку, і заданне мае закончылася. У чым жа вы мне можаце дапамагчы?

— Вас могуць не пусціць на ўмацаваныя пункты.

— Ну, і чорт з імі! Яны мяне мала цікавяць. Скажу свайму генералу, што не пусцілі, і ўсё!

— Я здабуду вам пропуск! Я дам вам карту мінных палёў.

— І вось такой дробяззю вы хочаце купіць маё маўчанне, Шульц?

186

## З пісем землякоў

Дрэнна ты вучыўся ў сёмым класе. Дзядзька Сцяпан, што быў на прымусовых работах у Нямеччыне, падсмейваўся: «Ну, Валодзя, колькі «цвайек» зарабіў?» (двоек, значыць).

Настаўніца скардзілася: — Здольны ён хлопец, — гаварыла, але мала вучыцца, заўсёды часу не мае...

Сварыўся на цябе! Ды што, калі падручнікаў і «каетаў» тваіх не разумеў. (Сам жа не здабыў ніякай навукі). А ты палюбіў гаспадарку — зайздросна, моцна. Даглядаў свіней, кароў, авец — рэзаў сечку, укладаў подсцілку. Проста не дапускаў нас да гэтай работы. Маці крычала:

— Ідзі, вучыся! Я сама зраблю...

— Мама, авечкам рана даваць не сена, а саламяную трасянку, — спрачаўся з ёю.

Пакрыёма цешыўся табою. «Будзе з яго гаспадар,» — думаў і ўяўляў сябе старым, з унукамі на каленях. Ціха і шчасліва.

Неяк перад калядамі сустрэў на вуліцы пісьманосца.

— Вам перасылка з Варшавы.

### Напішы, сынок, адрас...

Падаў мне запакаваную кніжку. Што гэта?! Адрас гэта мой, але нікуды я не пісаў і ніякіх кніжак не прасіў. У хаце распячатаў ды прасілабізаваў на вокладцы — «Годовля в господарстве хлопскім».

— Прыслалі! — твая радасць выясніла ўсё.

Выхапіў яе з маіх рук і пабег у пакой.

Моўчкі іду да гумна малаціць авёс. Якраз мароз усталяваўся. Гнеў і здзіўленне перамяшалася ў пачуццё трывогі. «Па кніжках, значыць, хоча гаспадарыць. Ды што там у іх могуць напісаць? І без таго гаспадар ведае, чым карову карміць, свіней, а чым курэй або гусей? От, дурыць сабе хлопец імі галаву.»

Праз тыдзень з пошты прынеслі другую кніжку, танчэйшую — аб курах. Прычапіліся, каб прадоўжыць выпіску «Рольніка Польскага». Танная газета, добрая да самакрутак — дык яно праўда.

З той пары на вёсцы празвалі цябе Валодзькам - аграномам. Аграномаў бацька, аграноміха... Так і засталіся мы «аграномчыкамі» па сённяшні дзень .

У нас на весну рабілі сход. Нагаварвалі, каб выкуплялі ў ГС-е вапну і рассявалі па полі. Бо глебы нашы падмоклыя, «кіслыя», — тлумачылі. Паехалі... і больш не паказаліся.

Бог яго ведае? Як думаеш, сынок, дасць яна карысць якую?

Пішаш, што атрымалі новую кватэру ў цэнтры Беластока — тры пакоі з кухняй. Як жа цешуся, што табе добра жывецца! Мы маем цябе аднаго...

Ага, ледзь не забыў. Суседаў сын просіць адрас сельскагаспадарчай школы, у якой ты вучыўся, і калі адбудуцца прыёмныя экзамены. Напішы.

**Адоль КАСТРЫЦА**

## З КРАІНЫ ЗУБРА І ДЗІКА

Кожны чалавек — гэта пакрысе няверны Фама: не паверу, пакуль не ўбачу ўласнымі вачыма. Такая з'ява назіралася і ў жыхароў вёскі Тэрэміскі (Белавежская пушча), калі выйшла пастанова грамадскім чынам будаваць у вёсцы краму. Людзі сабе не верылі, у свае сілы не верылі. Але, калі менш як за год пастанова была здзейснена і крама пабудавана, сітуацыя ў псіхіцы тэрэміскаўцаў змянілася.

19 жніўня, якраз на Спаса, у сярэдзіне зялёнай шумлівай Белавежскай пушчы, у маляўнічай вёсцы Тэрэміскі адбылася рэдкая і вялікая ўрачыстасць: адкрыццё крамы. Для мясцовага насельніцтва рэдкая аказія убачыць і паслухаць прадстаўнікоў улады, якія прыехалі таксама на ўрачыстасць. Быў сам дырэктар ЦРС, быў старшыня ВЗГС, былі прадстаўнікі з павета. Аж 9 легкавых і 2 грузавыя машыны! А колькі пешых!

Кампетэнтныя ў ГРН кажуць, што будова крамы памагла Тэрэміскам выдзвінуцца з апошняй у ГРН вёскі на перадавую. Людзі паверылі ў свае сілы. Грамадскім чынам тэрэміскаўцы працавалі не толькі пры будове крамы, але і пры будове дарог, капанні равоў. Па 20 м. на гаспадара выпала гэтых выкапаных равоў. Нямала. А вартасць дарожных работ, выкананых грамадскім чынам у вёсцы Тэрэміскі, раўняецца ўжо 19 тыс. зл. Старшыня ГРН у Белавежы прасіў у газеце падаць прозвішчы найлепшых, так сказаць, найбольш заслужаных: Мікалая Смактуновіча і Леваня Вішнеўскага. І сказаць, што мала прыкладаўся солтыс вёскі (не падаем прозвішча).

### А ЯШЧЭ...

Пачалася будова дарогі з Белавежы, ад Заставы, у Пагарэльцы. Даўжыня — 3 км. Дагэтуль не было тут ніякай дарогі і ў Пагарэльцы ішлося праз лугі па-над рэчкай. Па бездарожжы.

Грамадскім чынам пачынаецца і будова стражацкай рэмізы ў Белавежы.

*

Агульная вартасць прац, выкананых грамадскім чынам у Белавежскай ГРН у гэтым годзе, дасягае 300 тыс. зл.

вл.

## НА ШЧАСЦЕ...

### КРЫНКІ — НЕ НОВАЯ ГУТА

...створаны адзін камітэт. Камітэт будовы дзіцячага сада ў Крынках (Сакольскі павет) у складзе 21 асобы. Сталася гэта ў час мінулагодняй перадвыбарчай кампаніі. Павятовыя прадстаўнікі сказалі:

— Крынкам патрэбны новы дзіцячы сад!

— Патрэбны, — павесялелі крынчане...

Бо ў старым будынку, хаця і адрамантаваным, ёсць толькі 48 месц. Дзяцей у дашкольным узросце — 352.

— Будзе яшчэ больш, — кажуць з усмешкай... Верым.

Цяпер у аддзеле асветы няясна выясняюць:

— У бягучай пяцігодцы не пабудуем.

Хіба, ясна? Куратарыум больш канкрэтна:

— Няма што і ўспамінаць! У першую чаргу канцэнтруем сродкі на будову школ у сувязі з рэформай пачатковага навучання.

Значыць, безнадзейнае становішча з...

— Ніхто так не цвердзіць, — перабілі мяне. — Дапаможам у прыстасаванні (адаптацыі) другіх будынкаў. Вось.

Іван Скроўба, сакратар мясцовага камітэта партыі, не ўступае:

— Трымаем за данае нам слова! Змабілізуем мясцовае насельніцтва і даб'емся вымаганых 30% грамадскага ўкладу. Маем ужо камення вартасцю звыш сто тысяч злотых, маем дваццаць тысяч зл. грашыма. Маем... поўнае зразуменне ў людзей!

### ЯЎНА НЕ ШАНЦУЕ...

... з будовай стадыёна. Бедны гаспадар кажа: — «Дзе коратка, там рвецца».

Перш было прапанавана размясціць яго ў маёнткавым парку, непадалёку мястэчка. Здавалася, лепшага месца і быць не можа. Ды бяда! Каб стварыць пляцоўку, неабходна выкапаць землечарпалкай каля 10 тысяч кубічных метраў зямлі — велізарны кошт!

А грамадскі чын? ЛьЗС неперакананы.

— Тады пляц каля школы, — нясмела азваліся ў грамадскай радзе.

— Замалы.

— Можа на выгане?

— Падмоклы.

— Дапаможам!

— Э-э...

Урэшце, ваяводскія ўлады знецярплівіліся:

— Крынкі — не Новая Гута! Ёсць пільнейшыя выдаткі. Маем поўную шафу гатовай дакументацыі...

У Нараўцы, Орлі ці Заблудаве ўжо будуюцца стадыёны. У Беластоцкім ЛьЗС-е пачуў дэвіз: «У кожнай вёсцы спартыўная пляцоўка!»

Ці ў мястэчку Крынкі таксама?

### «ГАНГАРА».

Гэта гатыцкая руіна з XVI стагоддзя. Спаленая ў апошнюю вайну. Сцены таўшчэзныя.

У 1959 г. кансерватар забыткаў планаваў: «Адбудуем. Там зробім клуб, тут — чытальню, у гэтым месцы — кіно, бібліятэку, святліцу...»

Зрабілі. Праект даўно ляжыць у бюровым стале.

У Крынках папрасілі мяне:

— У Беластоку пазвані, дзе трэба. Даведайся. Даведаўся. Справа актуальная. Цешымся.

Праз некаторы час зноў:

— Трэба праверыць сцены.

Ага... Што ж, лепей цяпер, чым ніколі.

А так. Даўных будоўляў шмат. Прыкладам, з нейкага стагоддзя шляхецкі палацык, што побач школы, ужо зусім не пасуе да сваёй архітэктурнай назвы: фармальная разваліна, горба старадаўніх рэліктаў. І ў гэтай развaліне жывуць людзі. Людзі, якіх няма куды выкватараваць...

«Гангара» — спецыфічнае крынкаўскае слова, якое азначае нешта вялікае, занядбанае, пакінутае.

Рынак і Гарбарская вуліца завалены каменнямі. Новы брук, скверык, эстрада. Так будзе.

Увіхаюцца брукары.

Пакуль што тут яшчэ не коратка і таму не рвецца. Хоць у адной справе!

**А. АНТАШЭВІЧ**

## ТЫДЗЕНЬ

(Працяг са стар. 1)

**Серада. —**

А пятай гадзіне над ранам прагнала прыбіральшчыца. Куды падацца?

— Ужо развозяць хлеб і малако, — Генік больш вопытны.

Прадуктовы самаабслуговы магазін ля кіна «Покуй» адкрылі ў шэсць гадзін.

— Ты цягні разовец, а я — дзве бутэлькі пастэрызаванага.

Удалося.

Насупраць «Ягелоніі» знаходзіцца манапольны склад. Генік, «Бомба», «Каска», «Рыжы», «Пятка» згодны. Сашка дрыжыць — ад страху і холаду. На начным небе насміхаюцца зманлівыя зоркі. «Не бойся, смялей!»

У драцяной агароджы складу намацалі дзірку. Раскруцілі шырэй. Можна пралезці. Першы Генік, за ім Сашка, «Каска». Скрынкі з водкай стаяць на пляцы. Адной хопіць. За пазуху, па кішэнях раскладаюць паўлітроўкі.

Сабраліся ў канцы Палескай вуліцы, пад чыгуначным мастом. Папілі (пад корак). Закурылі. Цяпло...

— Спаць, — пачалі развітвацца.

«Каска» далучаецца. На Беластачанскай хлеўчык поўны сена. Улягліся адзін пры другім. Сашка беражна вымае чатыры бутэлькі «чыстай» і хавае.

**Чацвер. —**

Цырульнік таргуецца.

— Дваццаць!

— Не, трыццаць.

— Не магу.

— Дык дваццаць пяць.

— Хай будзе, — адлічвае грошы.

Генік падае дзве паўлітроўкі. Сашка яшчэ раз пералічвае залатоўкі. На тратуары чакае «Каска».

— Бяжы па рэшту, голубе.

Сашка ўмомант. Падбіў яшчэ для непазнакі сена і асцярожна вышаў на панадворак.

— Зладзеі! — заляментавала на ганку хаты гаспадыня.

Побач «Манаполю» (складу) жыла старая гандлярка - патаемніца.

— Колькі маеце?

— Літар.

— Па дваццаць злоты ад «булі».

— Мала.

— Як сабе хочаце...

Халера якая! Генік засоп.

— Добра.

Віно, цукеркі, пернікі, фільм. Увечары некалькі сэтаў пінг-понга.

Ізноў экскурс да складу «Манаполь». Спадабалася.

Стог быў высокі, стромкі. Але затое з саламяным дахам... Бяспечна паснулі.

**Пятніца. —**

Сашка штурхнуў Геніка.

— Дзе «Каска»?

Навокал іскрыўся іней. Слядоў не відаць.

— Ноччу ўцёк, бадзяга.

— Змёрз.

— Наб'ем морду.

Патаемніцы прадалі шэсць бутэлек.

Сеанс «Травіяты» у «Тоне» агідны. Папоцемку, топчучыся людзям па нагах між крэсламі, дабраліся да выйсця. У «Пакою» дэманстраваўся «Фернанд каўбой». Нарэшце, сэнсоўны фільм! А 7-ай гадзіне вечара баксёрскі матч Беласток — Гданск. Ура!!!

— Купі папяросаў, голубе.

На скрыжаванні вуліц Сянкевіча і Аградовай ярка асветлены кіёск.

— Пачку «спортаў», — Сашка падае дваццацізлотавы банкнот.

Прадаўшчыца бярэ, выгладжвае на прылаўку. Аберуч адчыняе шуфлядку, лічыць здачу. Сашка «цапае» здачу і... дваццацізлотавы банкнот. Нырае ў цёмныя разваліны.

— Трымайце яго! — нясецца ўслед крык.

Генік зайздросна моргае. Сашка пачуўся раў-

## Аперыруе „атамны нож"

Група шведскіх урачоў і фізікаў правяла першую ў свеце бяскроўную аперацыю мозга. Аперацыя была зроблена 55-гадоваму мужчыне, які многія гады пакутваў ад галаўных боляў і псіхічнай дэпрэсіі.

На ўчастак вялікіх паўшар'яў галоўнага мозга быў накіраваны пучок пратонаў плошчай у 18 квадратных сантыметраў.

Пратоны разбурылі хворую тканку дакладна ў патрэбным месцы, не выклікаўшы пры гэтым ніякіх непажаданых пашкоджанняў: здаровая тканка вытрымлівае без шкоды для сябе ў два разы больш паток пратонаў, чым хворая.

Пасля аперацыі пацыент тут жа ўстаў і зусім здаровы змог праз некалькі гадзін пакінуць клініку.

## Дзве тысячы літар на паштовай марцы

У Венгрыі жыве выдатны майстар мініятурнага пісьма Лаёш Эйхман. Ён напісаў адну з самых маленькіх кніжачак на свеце. У гэтай мікраскапічнай кніжачцы памерам 17х17 міліметраў на 43 маленькіх старонках ён змясціў 160.128 літар, ці 34 тысячы слоў.

Сапраўдным шэдэўрам з'яўляецца гісторыя венгерскай філатэліі, якую не так даўно закончыў Лаёш Эйхман. Тэкст гісторыі напісан на адваротным баку паштовай маркі і складаецца з 2000 літар.

Запісы Лаёша Эйхмана немагчыма чытаць няўзброеным вокам. А ён пры напісанні не карыстаецца ні акулярамі, ні лупай.



Амерыканец Фрыд Бальдасар пераплыў Ла Манш на працягу 18 гадзін і 1 мінуты. Апошнім часам яго рэкорд пабіў дваццацігадовы англійскі вадалаз Сімон Патэрсон (на першым плане), які пераплыў канал на працягу 13 гадзін і 50 мінут.

## Парады нашага праўніка

### Звальненне з працы перад атрыманнем права на пенсію

**Пытанне:** Ці можа быць звольнены працаўнік, якому мала асталося да атрымання пенсії?

**Адказ:** Закон прадбачыць, што кожны працаўнік, які заключыў з працадаўцам умову працы, можа быць звольнены пасля папярэджання — фізічнага працаўніка на два тыдні наперад, а работніка разумовай працы на тры месяцы. Гэта датычыць усіх працаўнікоў, а ў гэтым і даўгалетніх. Аднак калектыўныя ўмовы, якія заключаюць прадпрыемствы з працаўнікамі, прадбачаюць розныя абмежаванні на карысць працаўніка. Адным з такіх абмежаванняў, якія прадугледжаны калектыўнымі ўмовамі, з'яўляецца забарона звальнення з працы працаўніка, якому асталося атрыманя пенсіі па старасці не больш двух год. Таму на прадпрыемствах, дзе абавязваюць калектыўныя ўмовы, звальненне такога працаўніка недапушчальнае. Калі б кіраўніцтва такога працаўніка звольніла, то можа ён выступіць са скаргай да спецыяльнай камісіі (раз'емчай) або у суд з патрабаваннем дапушчэння яго да працы і заплаты за час, у якім з віны прадпрыемства астаўся без працы.

Там, дзе калектыўнай умовы няма або ўмова гэта забароны звальнення з працы два гады перад атрыманнем пенсіі не прадугледжвае, працаўніку астаецца толькі звяртацца да кіраўніцтва вышэйшай над прадпрыемствам адзінкі або да прафесіянальнага саюза. Тыя павінны выступіць у абароне працаўніка, а гэта на аснове распараджэння (pismo okólne) Прэзэса Рады Міністраў з 19.IV.1960 г. у справе адзіных жывіцеляў сям'і (Монітор Польскі № 36 поз. 180), якое не дазваляе звальняць з працы тых, якія ўваходзяць у стары век, а не маюць яшчэ права да пенсіі.

## Музыка лічбаў

Нялёгка акрэсліць граніцы сучаснай аўтаматыкі. Космас і глыбіні атамаў, кіраванне цэлымі заводамі і электрастанцыямі, штучнае сэрца і кіраванне думкай на адлегласці... Аўтаматыка ўсюды.

За апошнія гады яна знайшла сабе яшчэ адно незвычайнае прымяненне — пачала праніцаць у мастацтва. Чалавек вучыць машыну складаць вершы, пісаць і выконваць музычныя творы. Паслухмяныя волі чалавека машыны ўваходзяць у яго духоўнае жыццё.

Да думкі Моцарта ператварыць мову лічбаў у музычнае «натхненне» звярнуліся сучасныя канструктары хуткадзеючых электронных машын з праграмным кіраваннем. Яны ператварылі нотныя запісы ў стужкі з мноствам маленькіх адтулін. Усе нотныя сімвалы сталі лічбамі і групамі лічбаў, якія азначаюць такты і цэлыя музычныя мелодыі. Можна запісаць у памяці машын гукі розных музычных інструментаў і галасоў рознай вышыні, нават гукі прыроды.

Машына атрымлівае правіла расстаноўкі і спалучэння лічбавых груп пры стварэнні папулярных песень, вальсаў, маршаў. Піша музыку машына па зададзенай праграме. У адпаведнасці з яе зместам яна выбірае са сваёй памяці гукі ўказаных тэмбраў. Спалучэнне гукаў, тактаў або кавалачкаў мелодый машына выкновае са здзіўляючай хуткасцю, недаступнай нават палёту чалавечай думкі.

Паклоннікі кібернетычнай музыкі гавораць аб будучай «музыцы атамнага веку», творцам якой стануць машыны.

Нярэдка сучасныя электронныя машыны называюць матэматычнымі. Уся іх работа заснавана на матэматыцы і некаторых элементах логікі, у нейкай меры яны могуць замяніць машыне мастацкі густ. Аднак законы эстэтыкі, якімі прасякнут змест мастацтва, нельга распрацаваць гэтак жа чотка, як законы матэматычнага мыслення.

Новы напрамак у прымяненні кібернетычных машын у музыцы створаны савецкім інжынерам - вынаходцам Ляонцевым. Ён стварыў музыку колера. У велізарнай канцэртнай зале на экране, што займае палову сцяны і столі, слухачу на мове колераў перадаецца змест музычнага твора. Колер дапамагае слухачам глыбей адчуць прыгажосць і музычны змест твораў кампазітараў. Асаблівыя мікрафонныя гукі звычайнай музыкі ператвараюць у электрычныя сігналы і перадаюць іх электроннай машыне. Машына, вызначыўшы асноўны матыў музыкі, расказвае яго на экране ігрой колераў. Бесперапыннымі зменамі афарбовак, яркасці, паслядоўнасцю змен і руху колеру яна злівае ў адно цудоўнае цэлае музыку і колер.

## ВЕЖА—ВОЛАТ



У Ленінградзе будуецца тэлевізійная вежа вышынёй 316 метраў. Гэта канструкцыя са сталёвых труб сабрана без адзінай шрубы і заклёпкі: усе яе часткі злучающа электразваркай. На двухсотметровай вышыні будзе змантыраван трохпавярховы будынак з пляцоўкай для экскурсантаў і памяшканнямі, дзе размесціцца радыётэхнічная апаратура і механізмы для быстраходных ліфтаў.

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

## СІЛАС

Усё гэта проста. Няма ніякай філасофіі. Ведаем, карыстаемся. З года ў год гаспадар робіць сілас. Складае зялёную масу, утрамбоўвае, пакрывае зямлёй і ўсё ў парадку.

Сапраўды, няма тут нічога мудронага. Вядома, для практыкі. Навука ж, якая намагаецца ўглыбіцца ў таямніцы ўсяго, натыкаецца на шэраг загадак, нечаканасцей, цікавасцей. Узнікаюць доўгія хімічныя формулы, выконваюцца тысячы аналізаў у лабараторыях, выпрацоўваюцца новыя метады, прадукуюцца навейшыя сродкі.

А ўжо старажытныя рымляне... Так, іменна яны пачалі сіласаваць кармы. Сіласныя ямы былі размешчаны ўздоўж галоўных ваенных шляхоў. Там былі зроблены запасы. Вядома, тады не ведалі сутнасці сіласавання, хімічных законаў, складаных рэакцый арганічных злучэнняў і г. д. Ведалі, што «штосьці» дзейнічае, кансервуе, што трэба так, а не інакш.

Навука выясніла шмат таямніц. Навука дае зброю ў барацьбе за ўраджай, для яго забеспячэння і выкарыстання. Шкада толькі, што не ўсе хочуць карыстацца яе ўказаннямі.

Сілас — гэта танны, смачны і карысны корм. На галаву дарослай жывёлы трэба штодзень каля 20 кг сіласа. На Беласточчыне пры колькасці 465 000 галоў жывёлы мы павінны расходваць штодзень каля 9 млн кг сіласу. Запатрабаванне на год складае 1,5 млрд. кг.

Такія лічбы. Такія ж і жаданні ўсіх тых, хто зацікаўлены ў развіцці нашай жывёлагадоўлі. Аднак аказваецца, што патрэбы ў гэтай галіне задавальняюцца толькі ў 30%. Паўднёвыя паветы — Бельск, Гайнаўка ці Сямяцічы маюць ужо ў гэтым сэнсе не малыя дасягненні. Аднак і тут запатрабаванне яшчэ вялікае. Таму толькі ў Бельскім павеце у гэтым годзе плануецца будова 80 сіласных ям.

Што можна сіласаваць?

Амаль усё. Можна сіласаваць не толькі культурныя расліны, але таксама пустазелле і адпадкі. Маем на ўвазе адпадкі пры ўборцы такіх прапашных культур, як цукровыя буракі (лісце). Вельмі карысна да буракавага лісця і зялёнай масы кукурузы дадаць травы або матыльковых раслін. Тады атрымліваецца корм з вялікім утрыманнем бялка і добрым складам іншых патрэбных для жывёлы рэчываў.

Трэба ведаць, што расліны не аднолькава хутка сіласуюцца. Напрыклад, кукуруза і буракавое лісце сіласуюцца вельмі хутка, а люцэрна наогул не сіласуецца. Таму прымяняецца змешванне кармоў у розных прапорцыях у залежнасці ад матэрыялу, прызначанага на сілас.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

